№ 15 (128)
Красавік 2006 года



# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года






## Жыве мая вёска

Абласны фестываль вясковай культуры пад такой назвай плануецца правесці ў Мінскай вобласці. З лютага па лістапад у цэнтральным рэгіёне пройдуць раённыя фэсты. У іх возьмуць удзел усе мясцовыя вясковыя клубныя ўстановы розных тыпаў (у тым ліку і перасоўныя).

У межах фестывалю плануецца ўвасобіць шэраг тэматычных накірункаў. Шырока прадстаўлена краязнаўства – мяркуецца праводзіць тэматычныя вечары, тэатралізаваныя прадстаўленні, якія раскрываюць гісторыю стварэння роднай вёскі, а таксама народныя святы, мясцовыя абрады, фальклорныя вандроўкі і кірмашы.

Таксама будуць наладжаны цікавыя сустрэчы з сямейнымі дынастыямі, пасяджэнні клубаў, выставы і конкурсы. Вясковая моладзь прадэманструе свае здольнасці падчас культурна-спартыўных, забаўляльных праграм, разнастайных шоу. Не забудуцца арганізатары фэстаў і пра святы народнага календара, выступленні унікальных фальклорных калектываў і народных майстроў. У вяскоўцаў з'явіцца магчымасць больш даведацца пра сваіх землякоў, узяць удзел у агенчыках «Ад усёй душы». А яшчэ плануецца арганізаваць раённыя конкурсы на лепшую песню і верш аб роднай вёсцы. Будуць праведзены выставы фотаработ і дзіцячых малюнкаў. Сваімі сакрэтамі падзеляцца аматары-кветкаводы, пчаляры, садаводы і агароднікі.

Фінал раённага фэсту пройдзе ў кастрычніку-лістападзе. На яго выніках плануецца вызначыць лепшых сярод вясковых клубаў і ўстаноў культуры, а таксама сярод клубных установ аграгарадкоў. А заключнае мерапрыемства абласнога фестывалю «Жыве мая вёска» адбудзецца ў маі наступнага года на базе Крупіцкага цэнтра культуры Мінскага раёна.

*Мікалай ЛІТВІНАЎ*
*(«Звязда», 22 сакавіка 2006 г.)*

***Сляды іх дзейнасці дайшлі і да нашых дзён у назвах. Здабываючы сродкі для жыцця, яны давалі назву мясцінам па іх функцыянальным прызначэнні ці па прыродных прыкметах.***

## І сёння карыстаемся здабыткамі продкаў

За Смілавічамі, на поўдзень, у напрамку Дукорскай пушчы знаходзіцца вялікае ўрочышча «Залавы», непадалёк ад якога ўпадае ў раку Волму рэчка Слоўсць. У наш час яго назва вымаўляецца скажона. Няправільна пастаўлены націск змяніў сэнс слова. Зараз маецца на ўвазе тое, што аснову словазлучэння складае слова «лава», на якой сядзяць. На самой справе тут знаходзіліся рыбацкія і паляўнічыя ўгоддзі продкаў. У старадаўнасці пушча даходзіла да берагоў р. Волмы. Называлі гэтыя мясціны «лавы», «за лавамі» – ад слова «лавіці». Тут лавілі рыбу і звера. Нездарма і ў назве рэчкі «Слоўсць» – корань «лоў». Гэта адзін ланцуг, які яскрава падмацоўвае маю выснову.

Захавалася назва «Баброўка» альбо «Бабровіца». Тут вадзіліся бабры. Гэта частка сучаснай тэрыторыі Смілавіцкага ліцэя, дзе калісьці была бабровая запруда, а зараз існуе штучная сажалка. У міжрэччы Волмы і неіснуючай Жураўкі, якая працякала каля сянiлішча, шмат было жураваў. Тады на іх палявалі. Адсюль і назва вёскі Жураўкавічы, якая сёння знаходзіцца на гэтых мясцінах.

За вёскай Верхлес ёсць урочышча пад назвай Буслоўшчына. Калісьці тут былі багатыя кармавыя ўгоддзі бусла. На высокіх дрэвах яны ладзілі свае гнёзды-бухлаўкі. З далёкіх-далёкіх часоў ідзе павер'е, што бусел прыносіць дабро, шчасце. Сама назва вёскі паходзіць ад слоў «верхні лес». Ён рос за свяцілішчам на ўзгор'і. Яго параўноўвалі з лесам, які рос за сучаснай вёскай Гудавічы, у нізіне – ніжні лес.

Дзе знаходзіцца сённяшняя вёска Ляды Смалявіцкага раёна, былі ляды – палеткі пасечна-вогневага земляробства. Паселішча на лядах – Ляды.

Назву вёскі Грыва можна растлумачыць наступным чынам. Грыва, як у каня, гэта ланцуг узгоркаў з вузкімі вострымі вяршынямі. Тут праходзіць водападзел невялікіх рэчак: Вожы і неіснуючай Воранаўкі.

Цікавая назва вёскі Гудавічы. На мой погляд, яна паходзіць ад слова «гуд», «гудзець». Шмат розных звяроў вадзілася тады ў гэтых мясцінах. Некаторыя з іх збіраюцца перад гонам у аблюбаванае месца і спраўляюць «гуд», «гудуць». Вось такое месца і было калісьці тут. Ад гэтага і пайшла назва вёскі. Нашы продкі давалі дакладныя і трапныя назвы з'явам прыроды і мясцінам. Былі выпадкі ў сучаснай гісторыі, калі тут з'яўляліся ласі, менавіта ў час гону. Трэба адзначыць і тое, што назва магла пайсці і ад слова «груд», «груды» (узвышша). З цягам часу літара «р» магла знікнуць. Але думаю, што не ад гэтага. Вёска знаходзіцца ў падножжы ўзвышша. Ёсць гіпотэза і пра балцкае паходжанне.

У ваколіцах сённяшняй вёскі Карзуны раслі розныя гаючыя рэчы, кусты, карою якіх лячылі ў далёкія часы розныя хваробы (зубоў, зун, зуд). Назва вёскі ад слоў «Кара зубоў», «Кара зуну». Яшчэ ў 60-я гады XX стагоддзя прыязджалі сюды мінчане збіраць прыродныя лекі.

Вёска Кулікі знаходзіцца ў міжрэччы Волмы і Слоўсці. Калісьці тут была вялікая калонія балотнай птушкі куліка. На яе палявалі. Раней вясной збіралі яйкі.

Дукора – дуба кара. Яе шырока выкарыстоўвалі на розныя патрэбы ў старадаўнія часы. Напрыклад, ад яе пайшла назва аднаго з этапаў вырабу скуры – дубення. Ёю фарбавалі тканіны, выкарыстоўвалі ў якасці лекаў. З жалудоў яшчэ зусім нядаўна рабілі напой. Сённяшняя Дукорская пушча – рэштка некалі вялікага ляснога масіву, дзе асноўным дрэвам быў дуб. Лес даходзіў да берагоў ракі Волмы, да самых Смілавіч. Выказвалася думка, што назва паходзіць ад слоў «уладанне караля». Мне здаецца, што выкладзенае мною тлумачэнне з'яўляецца сапраўдным.

У даліне Волмы былі вельмі прыгожыя мясціны, дзе цвіло мноства красак (кветачак), было шмат красы (прыгажосці). Адсюль і пайшла назва вёскі Красевічы. Магла быць гэта назва і паперадзальнай аб небяспецы – расла красаўка (атрутная расліна).

Падгор'е – месца пад гарою. Тут пачынаецца невялікае ўзвышша. Паселішча, якое тут узнікла, атрымала назву, што характарызавала мясціну.

Вёска Лісіцы якраз на гэтым узвышшы. Калісьці тут рос вялікі лес. Яго аблюбавалі лісіцы. Вось на гэтага звера і палявалі. Маглі тут жыць і людзі, якія ўшаноўвалі гэтага звера. Так і ўзнікла назва.

Непадалёк ад вёскі Жураўкавічы ёсць урочышча Рагавішча. Мяркую, што назва паходзіць ад таго, што ў старадаўнія часы ў гэтай мясціне знаходзілі шмат рагоў ласёў. Тут былі багатыя кармавыя ўгоддзі для гэтай жывёлы.

*Іван ЯРАШЭВІЧ,*
*дырэктар СШ № 1,*
*г.п. Смілавічы*

**Ад рэдакцыі.** *Можа, і не ўсё пераканаўча выглядае ў даследаванні І. Ярашэвіча, але мы друкуем яго ліст як прыклад зацікаўлення краязнаўствам, паходжаннем назваў вёсак, мясцін, дзе ён жыве. Ухваляючы такія намаганні, рэдакцыя «КГ» запрашае настаўнікаў школ, іх вучняў-краялюбаў далучыцца да гэткіх доследаў. Нявыключана, што такая праца будзе карысна́й і для навукоўцаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, якіх паходжанне назваў вёсак вельмі цікавіць.*





# Гістарычная памяць у помніках адной вёскі на Стаўбцоўшчыне



*«Зямля дзядоў!*
*Такою ж залатою*
*Яна была і ў той далёкі век,*
*Калі зубры ішлі*
*да вадапою*
*І на дубах хаваўся*
*чалавек».*

Аздобіўшы радкамі Ул. Караткевіча з «Зямлі дзядоў», пачнём расказ.

Касцёл у Дзераўной мае даволі няясную пачатковую гісторыю. Лічыцца, што заснаваны ён як кальвінскі збор па фундацыі Мікалая Крыштофа Радзівіла і Галькі Эўфіміі Вішнявецкай паводле волі Эўфіміі Вярбіцкай (жонкі ваяводы Андрэя Вішнявецкага). Аднак, у інвентары 1716 года пададзена копія фундушнага дакумента, што быў складзены ў Нясвіжы 10 лістапада 1590 года. У ім гаворыцца, што 28 студзеня 1590 года пры пахаванні ў Дзераўной Эўфіміі Вярбіцкай, княгіні Вішнявецкай, прысутнічалі Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка, Мікалай Сапега і Ежы Чартарыйскі з жонкамі – роднымі сёстрамі Гальшкай Эўфіміяй, Ганнай, Аляксандрай – і яшчэ адной незамужняй дачкой нябожчыцы – Зоф'яй Вішнявецкай. Яны абмеркавалі волю іх маці, якая заснавала касцёл (ці, верагодна, мела намер заснаваць). Радзівілы паабяцалі ксяндзу Ежы Рацыбароўскаму паставіць касцёл. «Згодна волі і ўпадабання свайго даём на той касцёл Дзеравенскі там жа ў Дзераўной пляц здаўна царкоўны, на якім казнадзей зборавы міністр мешкаў, з агародамі, з валокамі двума грунтуворнага, з падданымі на тых валоках, да таго пляцу царкоўнага, альбо казнадзейскага, належачымі так тэж, з будаваннем, якое на тым пляцу ёсць». З гэтага дакумента вынікае, што здаўна ў Дзераўной быў царкоўны пляц, на якім жыў кальвінскі міністр.

Верагодны будаўнік касцёла – віленскі канонік Войцэх Сялява. Да нас дайшлі імёны народных майстроўцесляроў, якія будавалі гэты храм: Іван Грынцэвіч з Зарэчча, Раман з Дзяражнай і Андрэй з Нïўнай.

Ёсць яшчэ звестка з генеалагічнай гісторыі Радзівілаў, дзе ў ліку храмаў, пабудаваных Мікалаем Крыштофам Радзівілам паводле планаў архітэктара Джавані Марыі Бернардоні, называецца і касцёл у Дзераўной. Сцены касцёла вымураваныя з цэглы-пальчаткі, з якой будавалі іншыя тагачасныя святыні.



Капліца на вясковых могілках пабудавана ў XIX стагоддзі з дрэва. У 1979 годзе вернута вернікам, адрамантавана. Галоўны фасад аформлены 4-калонным порцікам, 3-вугольны франтон якога вянчае 8-гранная сігнатурказваніца. Гэта помнік народнага драўлянага дойлідства з утрыраванымі формамі архітэктуры класіцызму.

*«Гісторык грэчаскі эпічна*
*й проста*
*Пра нас даўным-даўно*
*паспеў сказаць:*
*Жыве ў Гіпербарэі*
*люд дзівосны,*
*Якому не балюча паміраць».*

Няма ў Беларусі такога кутка, дзе не шанавалі б подзвіг народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Абеліск, помнікі... Яны раскрываюць веліч подзвігу людзей у імя свабоды і незалежнасці Радзімы, з'яўляюцца часткай духоўнага жыцця нашага грамадства. Першы сціплы помнік загінулым землякам быў адкрыты ў 1966 годзе. У 1973 годзе пры актыўнай дапамозе ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны – старшыні мясцовага калгаса «Чырвоная зорка» Фёдара Іванавіча Чэрнікава быў узведзены абеліск, які існуе і цяпер. На ім прозвішчы мясцовых жыхароў, якія загінулі, абараняючы Айчыну.

8 мая 2005 года, на ўрачыстай абстаноўцы, побач з абеліскам была адкрыта мемарыяльная пліта з імёнамі жыхароў Дзераўной і навакольных вёсак, якія былі ўдзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны, выжылі падчас баёў, але не дажылі да 60-годдзя Перамогі. Уклад у гэту справу ўнеслі мясцовыя гаспадаркі, сельскі Савет, школа.

Ёсць спадзяванні, што яшчэ будзе ўсталявана і мемарыяльная дошка на месцы былой сінагогі з імёнамі яўрэяў мястэчка, загінулымі ў час фашысцкага генацыду, а таксама на месцы расстрэлу ў 1942 годзе мірных жыхароў.

*Як пісаў Д.С. Ліхачоў: «Памяць – гэта не захаванне мінулага, гэта – клопат пра вечнасць».*

***Васіль СУДНІК,***
***настаўнік гісторыі Дзераўнянскай СШ***

# Тут жылі дзекабрысты

## Новыя звесткі пра таварыства «Ваенных сяброў»

На вялікай карце Расійскай імперыі 1-й паловы XIX стагоддзя горад Навагрудак пазначаўся асобна. Вызначаўся ён і ў грамадска-культурным жыцці. Менавіта сюды, у маёнтак Вікторына, ішлі лісты ад жонак дзекабрыстаў – М. Валконскай, М. Юшнеўскай. Гаспадаром маёнтка быў генерал-маёр Г. Ігельстром, бацька «дзяржаўнага злачынцы», актыўнага дзеяча дзекабрысцкага таварыства «Ваенныя сябры», што ўзнікла ў 1825 годзе.

Маёнтак быў набыты Ігельстромамі ў пачатку XIX стагоддзя. Некаторыя звесткі пра дом ёсць у Гродзенскім ЦДГА Беларусі ў ведамасцях «Аб дамах г. Навагрудка, якія ўтрымлівалі афіцэрскія пастоі». Там значыцца: «дом пабудаваны на вуліцы Троіцкай (цяпер вуліца Свярдлова, 11), у ім было 8 пакояў, з якіх два Ігельстром здаваў на пастой».

Пра Вікторына ўпершыню расказваў пісьменнік С. Букчын у аповесці «Рэха над Беластокам». Але пісьменнік тады і сам добра не ведаў аб месцы яго знаходжання. У пошуках вялікую дапамогу аказаў мне краязнаўца Раман Лецка. У яго асабістым архіве была знойдзена карта горада 1-й паловы XIX стагоддзя.

Адзараз пра тых, хто ў свой час жыў у Вікторына. Сям'я Ігельстромаў была вялікая – чатырнаццаць дзяцей. Жылі усе дружна. У гэтым маёнтку прайшлі дзіцячыя гады Канстанціна. І пазней, калі вучыўся ў кадэцкім корпусе Санкт-Пецярбурга, летнія канікулы праводзіў тут. Прыязджаў і яго стрыечны брат Аляксандр Вягелін. Непадалёк, за пагоркам, быў дом А. Міцкевіча. Паміж К. Ігельстромам, А. Вягеліным і А. Міцкевічам завязалася моцнае сяброўства.

Рэвалюцыйны светапогляд фармаваўся ў сям'і самім жыццём. Несправядлівасць расійскай рэальнасці выклікала ў юнакоў унутраны пратэст, які пасля выліўся ў адкрытую барацьбу супраць самадзяржаўя. Адам Міцкевіч, які вучыўся ў Віленскім універсітэце, стаў ідэйным кіраўніком як «філаматаў», так і «філарэтаў». Менавіта з яго лёгкай рукі Ігельстром і Вягелін сталі актыўнымі членамі таварыства «Ваенныя сябры».

А. Міцкевіч казаў М. Рукевічу, калі развітваўся з ім: «У тваіх краях знаходзіцца Літоўскі корпус. Сярод яго афіцэраў нямала сумленных людзей. Двух з іх я добра ведаю. Гэта Ігельстром і Вягелін. Знайдзі іх». І Рукевіч знайшоў. Абодва таварышы ахвотна прынялі прапанову аб стварэнні тайнага таварыства. Яго душою стаў К. Ігельстром. Яго заклік да барацьбы знайшоў водгук у аднадумцаў. На вельмі кароткі час (а таварыства было створана ў чэрвені 1825 года) пад яго ўплыў трапілі вайскоўцы Беластоцкага, Нясвіжскага і Самагіцкага палкоў. Яшчэ ў стадыі фармавання таварыства выступіла супраць царскай улады.

Вестка аб паўстанні на Сенацкай плошчы ў Пецярбургу далящела і да «Ваенных сяброў». Адразу камітэт пачаў праводзіць сходы па падтрымцы паўстання. «Ніякай прысягі новаму імператару. Мы павінны выкарыстаць выпадак і падняць войска», – заявіў К. Ігельстром. Вечарам 23 снежня праводзілася агітацыя ў трох палках – не даваць прысягі Мікалаю І. Прысяга была назначана на 24 снежня. У гэты дзень Літоўскі батальён, фарштацкая і пантонная каманды пастроіліся ў карэ ў маёнтку Бранск (гэта за 40 кіламетраў ад Беластока). Прысутнічала 1 020 чалавек. Ротныя камандзіры пад кіраўніцтвам К. Ігельстрома не дазволілі прыняць прысягу. Але іншыя палкі іх не падтрымалі. У гэтым, у несупадзенні інтарэсаў, і заключаўся пралік «дваранскай рэвалюцыйнасці».

На наступны дзень пачаліся арышты. Была створана следчая камісія, якая працавала ў Беластоку. За 9 месяцаў да следства было прыцягнута больш за 150 чалавек. 13 кіраўнікоў таварыства «Ваенныя сябры» былі прысуджаныя да смяротнага пакарання. Але прысуд быў адменены. М. Рукевіч, К. Ігельстром і А. Вягелін былі прызнаны вінаватымі і пакараны дзесяцю гадамі катаржных работ.

Дзекабрысты прайшлі праз усе выпрабаванні, вярнуліся ў родныя мясціны і да канца свайго жыцця заставаліся вернымі сяброўству і братэрству вольнадумнікаў.

***Анатоль ШАРОЎ,***
***г. Навагрудак***



*Гандлёвыя рады ў Навагрудку (пачатак 1930-х гг.)*

# Сучасныя беларускія краязнаўцы

## Матэрыялы да слоўніка

**Сіцька** Здзіслаў Сцяпанавіч (н. 03.05.1939, в. Пашкоўцы Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл.), журналіст. Скончыў БДУ (1974). Да краязнаўства далучыла настаўніца геаграфіі СШ № 2 г. Баранавічы Н.М. Лугавая. Вывучае літаратурнае і гістарычнае краязнаўства Навагрудчыны. Адзін з аўтараў кніг «Памяць» Ляхавіцкага і Баранавіцкага раёнаў.

**Скалабан** Віталь Уладзіміравіч (н. 05.08.1947, в. Шылавічы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл.), гісторык, краязнавец, кандыдат гістарычных навук (1987), загадчык аддзела публікацыі дакументаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Скончыў Ленінградскі універсітэт (1970). Працаваў будаўніком. З 1972 рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя», загадчык рэдакцыі гісторыі Беларусі (1992–1995). З 1995 нам. дырэктара, з 1997 саветнік Бел. НДІ дакументазнаўства і архіўнай справы. З 2000 нам. дырэктара Нацыянальнага навук.-асв. цэнтра імя Ф. Скарыны. Настаўнікамі лічыць бацьку Уладзіміра Рыгоравіча (настаўнік Ляхавіцкай СШ № 2; далучыў да краязнаўства), Г. Каханоўскага, А. Мальдзіса, М. Ткачова, А. Каўку, А. Петрашкевіча. Даследуе гісторыю беларускага нацыянальнага руху, культуры XIX – пач. XX стст., пытанні архівазнаўства, бібліяграфіі. Укладальнік кнігі «Памяць. Ляхавіцкі раён». Адзін са складальнікаў бібліяграфічных дапаможнікаў («М.М. Улашчык» (1996) і інш.). Аўтар шматлікіх артыкулаў у навуковым і перыядычным друку.



*В. Скалабан*

*Кароткі слоўнік*
## краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ПАЛОННЫЯ** (палоннікі) – захопленыя ў палон люд у час ваенных дзеянняў. Ён быў рабсілай, яго, як маёмасць, можна было прадаць, аддаць за даўгі, нават забіць за невялікую правіннасць. У ВКЛ палонныя былі чэляддзю нявольнай, жылі пры дварах феадалаў, але з цягам часу за выслугі маглі мець жыллё і зямельныя надзелы. Паступова палон як папаўненне чэлядзі нявольнай страціў сваё значэнне. Палонныя маглі стаць агароднікамі. Статут ВКЛ нават адмяніў назву «чэлядзь нявольная». Палонным, якім давалася воля, можна было завяшчаць маёмасць.

**ПАЛЮБОЎНЫ СУД** – кампрамісны суд у ВКЛ, які разглядаў розныя спрэчкі і справы, акрамя крымінальных і звязаных з інтарэсамі дзяржаўнай казны. Меў у складзе некалькі суддзяў-камісараў, якія прызначаліся з аднаго саслоўя з зацікаўленымі. Калі камісары не прыходзілі да згоды, апеляцыі на рашэнне палюбоўнага суда падаваліся ў Трыбунал ВКЛ.

**ПАЛЮДДЗЕ** – даніна ў ВКЛ у XV–XVI стст. у форме падарункаў ад люду намеснікам або княжацкім старостам пры аб'ездзе імі валасцей.

**ПАЛЯВАННЕ** – пошукі ці адстрэл птушак і звяроў у ВКЛ. Калі ў іх брала ўдзел шмат люду, то паляванне называлася ловамі. Паступова яно станавілася прывілеем і забавай феадалаў. Статуты ВКЛ распрацоўвалі і ўдакладнялі раздзелы пра пушчы і сенажаці, рэчкі і азёры, пра паляванне, дзе вызначаліся клопаты пра належнае захаванне жывёльнага і расліннага свету.

**ПАМЕРКАВАННЕ** – палюбоўнае (мірнае) пагадненне ў цывільнай справе ці ў спрэчцы паміж бакамі.

**ПАМЯТНАЕ** – плата суду за выйграную спрэчку. Неабходна было памятнае пры сведчанні судом дамовы пра набыццё нерухомай маёмасці. Напрыклад, асоба, якая атрымлівала маёнтак, па Статуце ВКЛ 1588 г. павінна была заплаціць суддзі 4 грошы, падсудку – 2. За выпіс з кнігі дакумента аб гэтай здзелцы і прыкладанне да яго пячаткі плата спаганялася асобна.

**ПАНШЧЫНА** – форма абірання феадальна-залежнага сялянства, дармавая прымусовая праца сялян з уласнымі прыладамі працы ў гаспадарцы феадала. Пашырылася ў XV–XVI стст., калі склалася фальваркавая сістэма, якая ўзмацніла масавае запрыгоньванне сялян. Паводле «Уставы на валокі» 1557 г., за карыстанне валокай (прыкладна 21, 36 га) зямлі цяглавыя сяляне павінны былі працаваць на паншчыне 2 дні ў тыдзень, выконваць іншыя феадальныя павіннасці (талокі, згоны); агароднікі за невялікі надзел абавязаны былі працаваць на паншчыне 1 дзень у тыдзень.



*Афіцэр пяхоты войска ВКЛ 1792–94 гадоў (мал. Ю. Герасімовіча)*

**Факультатыў**

# Свет ад травы да зор

**Цыкл урокаў «Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу»**

***Вобразы вясны, вясновыя матывы займаюць адно з галоўных месцаў у вуснапаэтычнай творчасці. А калі зірнуць глыбей, у старажытнай міфалогіі беларусаў, увогуле славян. Уклад жыцця нашых продкаў быў вельмі цесна звязаны з земляробскай практыкай... з зямельскай-карміцелькай, яе пладаноснасць, ураджайнасць напрамую залежалі ад прыроды, яе спрыяння. Абуджаная зямля, вясновае сонца былі прадвеснікамі новага земляробчага года, яны выклікалі ў чалавечай душы і радасць, і хвалявання. Невыпадкова ў народзе да нашага часу кажуць: «Вясна год корміць». Альбо: «У сакавіку зіма не гніе – у красавіку трава не расце», «Як у сакавіку туман, дык у жніво дождж – пан!», «У красавіку грымот – будзе цёплы год», «Май халодны, год хлебародны» і інш.***

## «Ідзі, вясна, красуйся...»

*(Працяг. Пачатак у №№ 13, 14)*

Вясна для Міхася Чарота – рамантычная мара, ідэал: «Вясна была мне казкаю, Аб ёй я толькі марыў...» («Вясенні балаган»). Таму нават восень бачыцца яму ў жывым абнаўленні: «На палях здратаваных, прыбітых: Паглядзі... вясну радзіла восень» («Зарунела, зарунела...»). У вершы «Зіма», аднак, гучыць зусім іншая сэнсавая танальнасць: «О, там зіма! Там і вясной сцюдзёна, Усе скованы, як рэчкі, лёдам...» «Бунтарскае крыві Нішто не заморозіць!» – пераконваў сябе паэт. Але ён адчуў, як ягоная душа дваіцца, раскрыжоўваецца між вясноваю казкаю і вобразам смерці. Гэтае сваё драматычнае адчуванне паэт добра выказаў у вершы «З сучасных настрояў»: «Хачу я пець пра кветкі, май, Пра погляд зорак небасхілу... Зірну наўкола: там, дзе гай, Чарнее поле ад магілаў». Як і Я. Купала, М. Чарот і некаторыя іншыя паэты праз кантрастнасць зімы і вясны, супрацьпастаўленне вясны з вобразамі смерці – крыжоў, магіл, груганоў – здолелі выявіць супярэчнасці, складанасці свету і сваё дыскамфортнае, балюча-трывожнае пачуванне ў ім.

Вобразнай і каляровай экспрэсіўнасцю пазначаны вясновыя малюнкі Наталлі Арсенневай (вершы «Вясна», «Красавік», «Май» і інш.). У яе зборніку «Пад сінім небам» (1927) хораша апяваюцца ўсе поры года, але з асаблівай, нейкай глыбіннай праніклівасцю, як здаецца, гучаць песні пра вясну і восень. Паэтка любіць паэтызаваць кветкі – пралескі, фіялкі, піша пра іх з вялікай замілаванасцю сэрца: «Мілыя, мілыя сінія кветкі...» («Пралескі»). Кветкі ў яе ўспрыманні – «дар вясны зарунеўшым палям», ратаванне ад холаду, зімовай панурасці. Вясна ў паэзіі Н. Арсенневай паўстае ў сінечы прастору, сонечнасці і незамглёнасці колераў: «Пасінела неба... Ласкай залатою Заліваe сонца ціхія палі» («Май»). Улюбёны колер паэткі – сіні: «Неба сіняе, сіняе, сіняе», «сінія далі», «сінія кветкі», «сінаватыя цені» і інш. Яе вясновыя мелодыі – па-маладому шчырыя, летуценныя, поўныя душэўнай цеплыні і ўсхваляванасці.

Асабліва багата вясновых мелодый, прасякнутых мажорам, у беларускай паэзіі 1930-х гадоў. Большасць з іх гучаць як усялўляльна-пафасныя гімны. Ідэалогія, палітыка сталі вызначальнай часткай светапогляду і светабачання абсалютнай большасці паэтаў, яны вялі з «пачуццямі спрэчку» (П. Броўка), бачылі сутнасць паэзіі ў яе сацыяльна-грамадзянскай арыентацыі. З вуснаў многіх паэтаў гучыць апафеоз вясне савецкай, сацыялістычнай. «Вясна 1932 года» Алеся Дудара – яскравы прыклад рытарычнай ідэалагічна-палітызаванай вобразатворчасці:

*Прыйшла яна*
*і дзень ад дня*
*шырыцца па неабсяжных*
*абшарах.*
*Будзе яна, будзе яна*
*бальшавіцкаю ўдарнаю.*

У вершы «Вясна» (1936) паэт пафасна абвяшчае, што «кроў сусветнай вясны наліла нашы жылы», і даводзіць, што «цёпла пахне вясна толькі ў нас, толькі нам...». Падобнай вершатворчасці нямала і ў А. Александровіча, М. Чарота, А. Вольнага і іншых паэтаў.

Пейзажная лірыка бачылася тады як бы ніжэйгатунковай, не вартай пяра і ўвагі, таму паэтаў менш за ўсё цікавіла прыгожае, неўвядальнае, вечнае. Верш 1930-х гадоў П. Броўкі «Вясновая размова», калі меркаваць па назве, здаецца, павінен быць пейзажным. Аднак паэта не захапляе паэзія характа, ён складае гімн «савецкай вясне»: «Прымай, савецкая вясна, загады ад ЦК». Нават у пейзажных вершах паэты не маглі абысціся без «ідэйнай» падсветкі. Вясновая радасць, красамоўная патэтыка ў перадваеннай паэзіі ўспрымаецца ў цэлым як штучная выява грамадскага настрою, ідэалізацыя жудаснай па сваёй антычалавечай сутнасці палітыкі.

Матывы прыходу, спатканя вясны, вобразы вясны і сонца як сімвалы нацыянальнага вызвалення, духоўнага адраджэння і свабоды глыбока праніклі ў мастацкую свядомасць і шырока ўпісаліся ў творы заходнебеларускіх паэтаў. Востра, з шчымлівасцю пачуццяў перажывае надыход вясны герой Максіма Танка ў вершы «Паслухайце, вясна ідзе...». Ён увесь у моцным свабодалюбівым парыве, у прадчуванні вызвалення з-за астрожных кратаў. «Куст пахучага бэзу» тут нібы адлюстраванне жывога, чуйнага росквіту душы. На трапяткой эмацыянальнай ноце звяртаецца да вясны Мікола Засім: «О вясна, вясна-сястрыца...» (верш «Вясна»). Паэт размаўляе з вясной як з жывой істотай, звяртаецца да яе з пякуча-горкім запытаннем: «І нашто зіме ты лютай Край на здзекі аддаеш?»

Паэтычны вобраз вясны ў беларускай паэзіі ваеннай пары балюча кантрастуе з вобразамі вайны, разбурэння, смерці. Вясновыя матывы маюць выразную трывожна-роздумную афарбоўку, драматычна-аптымістычную гуманістычную напоўненасць пачуцця. Асабліва гучанне набываюць традыцыйныя матывы зерня, сяўбы, руні, праз якія сцвярджаецца непераможнасць жыцця на зямлі: «Стане гюле каласіцца, Ляжа шоўкавым абрусам, Будзем сеяць, беларусы! Закрасуе буйна збожжа...» (верш «Будзем сеяць, беларусы!» П. Броўкі). У многіх паэтычных творах прачула выяўлена вера ў немінучасць вясновага красавання і цвіцення роднага краю. Адметны ў гэтым сэнсе лірычна-ўсхваляваны верш Пімена Панчанкі «Будучь вечна сады расцвітаць...» (1942). У творы зпітаваны аптымізм і боль, якім «напаіла... вясна». Вясновая моц прыроды становіцца алегорыяй і сімвалам перамогі, яе яркай метафарай. Вось вершаваныя радкі Анатоля Астрэйкі пачатку вайны, у якіх з адухоўленым лірызмам услаўляецца непераможная магутнасць вясны: «Хай шуміць сакавік над зямлёй, Рве зімовыя путы прырода. З новай сілай чаканай вясной Загрымяць нашых войск ледаходы» («Ідзе сакавік па зямлі»). Вобраз-матыў вясны, такім чынам, перагукваецца ў ваеннай паэзіі з матывам перамогі, выяўляючы жыццялюбны, патрыятычны пафас народнай свядомасці.



*«З новай сілай чаканай вясной Загрымяць нашых войск ледаходы...»*
*На фота Наталлі ПАБІРУШКІ – паводка на рацэ Дзісне*

*Алесь БЕЛЬСКІ*

*(Працяг будзе)*

<u>Віктар ШНІП</u>

## Балада Льва Сапегі

**(04.04.1557 – 07.07.1633)**

З цыкла «Балады Вялікага Княства»

*У Ружанах на вуліцы вецер,*
*Нібы воўк,*
*што ў начы заблудзіў,*
*Ля вакон,*
*што да раніцы свецяць,*
*Прыпыніўся,*
*свой шлях прытаіў*
*І заціх...*
*І прыцішыў дыханне*
*Па-над кнігаю новаю ён,*
*Адзінокі, сівы, бы ў тумане,*
*І самотны, як вечнасць,*
*як сон,*
*Леў Сапега, што сёння начуе*
*Сярод кніг, як сярод цішыні,*
*У якой па стагоддзях*
*вандруе*
*Белы рыцар на белым кані.*
*І гараць свечкі светла,*
*бы ў Храме,*
*І па кнігах зноў цені, як дым,*
*Прапаўзаюць, губляюцца*
*з намі*
*У паветры ад зор залатым.*
*І запіша ён зноў,*
*што спазнае,*
*Запісаўшы, закрэсліць ізноў.*
*Ён – Сапега,*
*Сапегу свет знае,*
*Як сам знае Сапега любоў*
*Да зямлі, на якой нарадзіўся,*
*За якую маліўся і біўся...*
*І назаўтра ён сядзе ў карэту,*
*Зноў у Вільню паедзе, у свет,*
*І за ім, нібы воўк,*
*на край свету*
*Будзе вецер ляцець*
*след у след...*



Фамільная маёмасць князёў Сапегаў у Ружанах (мал. Н. Орды) і алейны партрэт Л. Сапегі (XVII ст.)




# Рэфармацыя і яе ўплыў

## на развіццё грамадскіх адносін і культуры Беларусі XVI–XVIII стагоддзяў

***(Заканчэнне. Пачатак у № 14)***

На чале кальвіністкай абшчыны знаходзіліся старэйшыны (прэсвітэры), якія выбіраліся з ліку свецкіх сяброў абшчыны, і прапаведнікі, дзейнасць якіх не звязвалася са святарствам, а была толькі царкоўнай службай (міністэрыум), адкуль паходзіць іх назва – міністры. Прэсвітэры і міністры складалі кансісторыю, якая і кіравала справамі царквы ў пэўнай абшчыне. Але з цягам часу і павелічэннем колькасці рэфармацкіх абшчын пачалі праводзіцца з'езды прадстаўнікоў такіх суполак у асобных акругах і ва ўсёй краіне – сіноды.

Кальвінісцкія абшчыны ў Вялікім княстве Літоўскім былі аб'яднаны ў Евангелісцка-рэфармацыйным задзіночанні. У канцы XVI ст. тэрыторыя ВКЛ была падзелена на шэсць акруг (дыстрыктаў), у якія ўваходзілі рэфармацкія суполкі: віленскую, завіленскую, жмудскую (жамойцкую), берасцейскую, наваградскую і рускую (або беларускую). Апошняя была на ўсходзе цяперашняй Беларусі. На чале акруг стаялі інтэнданты, якіх прызначаў сінод абшчын ВКЛ. Штогод дэлегаты ад кожнай акругі з'язджаліся на агульны сінод, які звычайна збіраўся на тры дні ў чэрвені. Збіраліся сіноды і па акругах.

Падчас контррэфармацыі, контрнаступу каталіцкага касцёла, заключэння Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. і пераходу амаль усёй іерархіі праваслаўнай царквы ў унію дзве рэлігійныя меншасці ў Беларусі – праваслаўная і пратэстанцкая – спрабавалі аб'яднаць свае дзеянні для адпору каталіцкаму наступу.

У 1599 г. у Вільні прадстаўнікі шляхты і мяшчан, кальвіністы і праваслаўныя, арганізавалі канфедэрацыю для сумеснай абароны сваіх рэлігійных і палітычных правоў. Віленская канфедэрацыя сваім актам узяла пад апеку і абарону шляхту, духавенства і мяшчан абедзвюх гэтых канфесій.

Але далейшы наступ каталіцкага касцёла, поспех царкоўнай уніі і адыход значнай часткі беларуска-літоўскай шляхты і ад праваслаўя, і ад кальвінізму – усё гэта спрычынілася да скарачэння прыхільнікаў рэфармацкай царквы. У 1640 г. на тэрыторыі ВКЛ было 140 збораў. У 1655 г. – 110, а ў 1696 г. – толькі 51 збор. Аднак такога скарачэння колькасці абшчын, як у Польшчы, у Беларусі ў гэты час не было.

Другой прычынай захавання значнай колькасці рэфармацкіх абшчын была больш талерантная палітыка ў самім ВКЛ, дзе ў адрозненне ад Польшчы з яе даўнім монаканфесіяналізмам існавала даўняя традыцыя суіснавання дзвюх, а ў XVII ст. і трох іерархічных цэркваў са сваімі правамі.

У гэты час сіноды літоўскага Евангелісцка-рэфармацкага задзіночання акрамя звычайных адміністрацыйных спраў, разглядалі справы адукацыйнага характару – адкрыцця і падтрымкі школ, запрашэння прафесараў і настаўнікаў з-за мяжы, выдання падручнікаў і дапаможнікаў. У маі 1617 г. князем Янушам Радзівілам была закладзена, а ў 1624 г. ужо пасля яго смерці адкрыта кальвінісцкая гімназія ў Слуцку. Такая ж гімназія была ў Кейданах.

Усе выкладчыкі Слуцкай гімназіі былі кальвіністы, а кальвінісцкі сінод у Літве і Беларусі кантраляваў і кіраваў дзейнасцю гімназіі. Апякун малалетняга ўладальніка Слуцка Багуслава Радзівіла, яго дзядзька Крыштоф Радзівіл, гетман польны літоўскі, запрасіў у гімназію выкладчыка беларускай («рускай» – афіцыйнай дзяржаўнай) мовы і ў 1624 г. звярнуўся па рэкамендацыю да кіеўскага праваслаўнага мітрапаліта Іова Барэцкага, але мітрапаліт параіў яму пашукаць спецыялістаў у Слуцку.

Адной з задачаў гімназіі была падрыхтоўка міністраў для рэфармацкай царквы. Некаторыя выпускнікі гімназіі потым вучыліся ў еўрапейскіх пратэстанцкіх універсітэтах – у Кёнігсбергу, Гейдэльбергу, Лейдэне, Оксфардзе, Эдзінбургу, Лейпцыгу і іншых.

Ад пачатку XVIII ст. у гімназію прымалі не толькі хлопчыкаў-кальвіністаў, але і вучняў іншых хрысціянскіх веравызнанняў. Сінод дазволіў гэта. Навучанне ў гімназіі было бясплатным.

У Слуцку таксама была адкрыта школа і для гараджан. У 1624 г. адначасова з гімназіяй была ўтворана школа, у якой па загадзе князя Крыштофа Радзівіла, таксама бясплатна, дзеці слуцкіх мяшчан вучыліся польскай, беларускай («рускай», як тады называлася), лацінскай і грэцкай мовам – чытанню і пісьму. Лепшыя вучні пасля трохгадовай вучобы па адным чалавеку ад кожнай з трох частак горада праходзілі далейшае навучанне ў гімназіі за кошт уладальніка горада князя Радзівіла.

Сінод Евангелісцка-рэфармацкага задзіночання займаўся і друкарскай справай. Так, радзівілаўская друкарня ў Слуцку, якая выпускала кнігі не толькі рэлігійнага, але і свецкага зместу, у 1693 г. была перададзена слуцкай княгіняй Людвікай Каралінай Радзівіл-Нейбургскай сіноду рэфармацкай царквы ў ВКЛ. А сінод, ратуючы друкарню ад небяспекі падчас Паўночнай вайны, перавёў яе ў 1705 г. у Кёнігсберг. Сінод Рэфармацкага задзіночання меў і свой архіў.

Пасля смерці ў 1695 г. дачкі Багуслава Радзівіла – Людвікі Караліны – скончыўся перыяд, калі ўплывовыя магнаты Радзівілы абаранялі і апекаваліся Рэфармацкім задзіночаннем і яго сінодам. Але ў фундушавых запісах Евангелісцка-рэфармацкаму сіноду, дадзеных раней князямі Радзівіламі, засталося забеспячэнне значнымі грашовымі сумамі на плату евангелісцкаму духавенству ад радзівілаўскай адміністрацыі нават у сярэдзіне XVIII ст., калі ўладальнікам Слуцка і княства быў католік Геранім Фларыян Радзівіл.

Ад сярэдзіны XVII і да канца XVIII ст. сіноды Рэфармацыйнай царквы ўжо не збіраліся ў сталіцы дзяржавы – Вільні, а па традыцыі ў радзівілаўскім горадзе Кейданах або ў іншых радзівілаўскіх мясцінах. Сіноды займаліся разглядамі і карэкцыяй пастаноў акруговых сінодаў. Традыцыйнымі былі кадравыя пытанні. Паводле спісу 1748 г., у ВКЛ знаходзілася 47 рэфармацкіх збораў, гэта амаль столькі, колькі іх было ў канцы XVII ст. У XVIII ст. становішча кальвіністаў, як і іншых дысідэнтаў, змянілася. Каб захаваць напружанасць у Рэчы Паспалітай і карыстацца гэтым, цар Пётр I праз свайго пасланніка князя Р.Ф. Далгарукага падтрымаў артадаксальных католікаў супраць пратэстантаў і праваслаўных, каб прымусіць караля Аўгуста II вывесці з краіны саксонскія пратэстанцкія войскі і аслабіць яго. Пад націскам Расіі «нямы сейм» 1717 г. забараніў некаталіцкай (дысідэнцкай) шляхце займаць дзяржаўныя пасады ў Рэчы Паспалітай. Кальвіністы, як і іншыя дысідэнты, сталіся людзьмі другога гатунку.

Калі ж Кацярыне II спатрэбілася зачэпка для непасрэднага ўмяшання ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай, то імператрыца, наадварот, падтрымала дысідэнцкую шляхту, актыўна выступаючы ў абарону правоў некаталіцкай шляхты. 5 красавіка 1764 г. Кацярына II на падставе даклада магілёўскага праваслаўнага епіскапа Георгія Каніскага (дарэчы, расійскага падданага) і сінода Рускай праваслаўнай царквы загадала расійскім дыпламатам у Варшаве Герману Карлу Кайзерлінгу і князю Мікалаю Васільевічу Рэпніну пачаць падрыхтоўку да стварэння шляхецкай канфедэрацыі на карысць дысідэнтаў. Пры гэтым гаворка ішла аб ураўнаванні правоў праваслаўнай і пратэстанцкай (лютэранскай і кальвінісцкай) шляхты з каталіцкай, што давала магчымасць прывесці ва ўрадавыя ўстановы Польшчы і Вялікага княства Літоўскага элементы, якія б знаходзіліся пад расійскім уплывам і прывязалі б Рэч Паспалітую, асабліва ў справах знешняй палітыкі, да Расіі. У 1764 г. Расія і Прусія перадалі сейму Рэчы Паспалітай патрабаванне аб раўнапраўі дысідэнтаў. Але сейм адхіліў гэты праект. Тады ў 1766 г. Расія актывізавала дысідэнцкае пытанне ў якасці сродку палітычнага націску на кіруючыя колы Рэчы Паспалітай. Адначасова Расія і Прусія патрабавалі захавання правіла liberum veto, якое садзейнічала палітычнай анархіі ў дзяржаве.

Кацярына II патрабавала ад расійскага пасланніка ў Варшаве М.В. Рэпніна, каб ён стварыў канфедэрацыю (саюз шляхты) дысідэнтаў. На межах Беларусі было сканцэнтравана расійскае войска ў 30 тысяч чалавек.

У кастрычніку 1766 г. дысідэнцкая шляхта падала просьбу аб ураўнаванні яе правоў. Але сейм адмовіўся прыняць такую пастанову. Тады Кацярына II загадала стварыць шляхецкія канфедэрацыі. Князь Рэпнін вызначыў гарады, дзе павінны былі стварыцца канфедэрацыі – Торунь і Слуцк. Кіраўнікі дысідэнтаў атрымалі ад расійскага пасланніка 20 тысяч чырвоных злотых (335 тысяч злотых) для непасрэднай падрыхтоўкі канфедэрацыі.

20 сакавіка 1767 г. у Торуні была створана пратэстанцкая канфедэрацыя для Польшчы. У той жа дзень у Слуцку ўтварылася шляхецкая канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага «як рэлігіі старарускай, таксама абодвух вызнанняў евангелісцкіх». Усяго ў Слуцк з'ехаліся 250 шляхціцаў, што ва ўмовах палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай было невялікай колькасцю. Маршалкам канфедэрацыі быў абраны генерал-маёр літоўскай кавалерыі Ян Грабоўскі (кальвініст). Большасць з 33 радцаў канфедэрацыі (найвышэйшыя асобы) складалі кальвіністы і лютэране (23 асобы).

Са 115 канфедэратаў Вялікага княства Літоўскага пратэстантаў налічвалася 73; астатнія былі праваслаўныя. Асобна падпісаліся 117 праваслаўных канфедэратаў з 7 ваколіц Пінскага павета. Аднак праваслаўныя, акрамя Г. Каніскага, не адыгралі ў Слуцкай канфедэрацыі кіруючай ролі. Кіравала Слуцкай канфедэрацыяй кальвінісцкая шляхта.

Канфедэраты разам з расійскімі войскамі пайшлі на Варшаву. 13 (24) лютага 1768 г. Расія і Рэч Паспалітая заключылі чарговы «вечны трактат», які ўвайшоў у пастановы сейма. Жыхарам Рэчы Паспалітай забяспечвалася «вольнае вызнанне веры грэчаскай усходняй неаб'яднанай (г.зн. неуніяцкай. – **А.Г.**) і дысідэнцкіх абодвух евангелісцкіх веравызнанняў...» Кацярына II і каралі прускі, дацкі, англійскі і шведскі «гарантавалі праваслаўнай і дысідэнцкай шляхце» роўнасць з каталіцкай. Дазваляліся шлюбы католікаў з некатолікамі. Пры гэтым сыны павінны былі быць у бацькоўскай веры, а дочкі – у матчынай. Праваслаўныя і дысідэнты, духоўныя і свецкія, вызваляліся ад духоўнай каталіцкай юрысдыкцыі. Але каталіцтва заставалася пануючай канфесіяй, а каралём мог быць толькі католік.

Аднак кальвіністы, як і іншыя дысідэнты, цяпер былі паўнапраўнымі з католікамі. Пад наглядам сінода кальвіністы пачалі рэстаўраваць свае святыні. Як і раней, сінод збіраўся ў чэрвені. У канцы XVIII ст. сіноды займаліся справамі школ, шпіталяў, рэгістравалі матэрыяльныя каштоўнасці абшчынаў і збораў. Сіноды таксама выраталі справы пра адносіны да лютэранаў і іншых канфесіяў.

У Канстытуцыі 3 мая 1791 г. пацвярджалася пануючае становішча рымска-каталіцкай рэлігіі. Адначасова Канстытуцыя гарантавала поўную свабоду веравызнання і ўзяла іншыя канфесіі пад апеку закона.

Такім чынам, Евангелісцка-рэфармацкаму задзіночанню ўдалося захаваць пэўныя пазіцыі, утрымаць колькасць вернікаў і працягваць не толькі рэлігійную, але і адукацыйную і культурную дзейнасць, зрабіць свой унёсак у развіццё матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі.

***Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ***





# «Не сустрэў здраднікаў»

### Уладзіміру Федасеенку – 80

**22 красавіка 2006 года беларускаму пісьменніку, удзельніку Вялікай Айчыннай вайны, Ганароваму грамадзяніну горада Жлобіна Уладзіміру Канстанцінавічу Федасеенку спаўняецца 80 гадоў. Ён – сапраўдны патрыёт сваёй Радзімы. У 15 гадоў узяў зброю ў рукі і змагаўся з ворагам у партызанскім атрадзе. Быў паранены. У 17 гадоў за праяўленую мужнасць узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, пазней – ордэнам Айчыннай вайны I ступені, медалямі «Партызану Айчыннай вайны» I і II ступеняў, іншымі.**

Барацьба з нямецка-фашысцкімі акупантамі стала асноўнай тэмай літаратурнай творчасці пісьменніка. Пры гэтым яго раманы «Дубовая града» (1965), «Віхры на скрыжаваннях» (1970), «Пасля смерчу» (1975) па сваім змесце глыбока аўтабіяграфічныя.

У 1999 годзе ўбачыла свет новая кніга Уладзіміра Федасеенкі – раман «Мутныя росы». Гэта – апісанне жыцця аднаго пакалення людзей, землякоў пісьменніка са Жлобіншчыны. Героі твора балюча ўспрымаюць гібель роднай прыроды – яе гаёў, лазовых зараснікаў, яе чаротаў, аераў і ўсяго таго, чым некалі поўніўся цудоўны прыдняпроўскі край.

Уладзімір Федасеенка доўгі час стала жыве ў Мінску, але часта наведваецца на малую радзіму – на Жлобіншчыну. Тут ён заўсёды жаданы госць. Тут яго ведаюць, любяць і паважаюць.

*«Нарадзіўся я ў 1926 годзе,* – піша Уладзімір Федасеенка ў сваіх успамінах, якія даслаў у рэдакцыю жлобінскай раёнкі. – *Быў час НЭПа*. Бацька працаваў тады ў Жлобінскай гарбарнай майстэрні. Маці жыла ў сваёй хаце на хутары Бор Мормальскага сельсавета. Неяк сусед ехаў на кані ў Жлобін, і яна, цяжарная, рызыкнула з ім наведаць бацьку. На зваротным шляху сусед дужа гнаў каня, спяшаўся хутчэй дадому. Пад'ехаўшы да першай хутаранскай хаткі, спыніўся. Ледзь паспеў давесці маці за парог да бабулі... Так пісаў я ў 1941 годзе аб сваім з'яўленні на свет, калі вучыўся ў восьмым класе Мормальскай сярэдняй школы...».*

Неўзабаве пачалася вайна. У першыя месяцы нямецка-фашысцкі навалы на Жлобіншчыне вяліся ўпартыя баі. Ужо тады юны Уладзімір уключыўся ў барацьбу. *«Мой дзядзька (Афанасій Мартынаў. – **М.Ш.**), стары камуніст, старшыня калгаса, стаў байцом знішчальнага батальёна,* – успамінае далей пісьменнік. – *Тады ж і я ўступіў у гэтае злучэнне разведчыкам. За мной дзядзька замацаваў добрага калгаснага каня. Але ў разведку я хадзіў найбольш пехатою».*

12 жніўня 1941 года юны разведчык быў схоплены гітлераўцамі. Нямецкі унтэр без доўгага следства паставіў Уладзіміра над ямай на расстрэл. Пачаў ужо і цэліцца з вінтоўкі. Але раптам немец, што стаяў на пагорку, нешта крыкнуў. Аказалася, што да месца расправы па прасёлкавай дарозе набліжалася легкавая машына. *«Унтэр хуценька аддаў салдату вінтоўку і адчычаем далей ва ўспамінах Уладзіміра Федасеенкі. – Машына спынілася. З яе вылез генерал. Унтэр адрапартаваў, працягнуў генералу бінокль. Той пачаў угладацца на ўсход, потым вярнуўся да машыны. Я працягваў стаяць над ямай з паднятымі рукамі. Афіцэр, які суправаджаў генерала, заўважыў гэта і накіраваўся да мяне. Не дайшоўшы некалькі крокаў, ён рукой махнуў, каб я ішоў услед за ім да машыны. Паказаўшы, дзе мне сесці, загадаў рукі трымаць угары. Генерал сядзеў уперадзе».*

Юнага разведчыка даставілі ў вёску Галы. Там зрабілі допыт і ўпіхнулі ў еўню, дзе было ўжо чалавек дваццаць ваеннапалонных. А праз пару тыдняў Уладзіміра і ўсіх астатніх пасадзілі ў вялізную крытую машыну і павезлі ў Бабруйск, дзе быў лагер для ваеннапалонных. На дарозе Уладзіміру ўдалося ўцячы.

...Фронт далёка перасунуўся на ўсход. Жлобіншчына апынулася ў глыбокім тыле. Але акупанты адчувалі тут сябе даволі няўтульна. Набіраў моц партызанскі рух. Не сядзеў склаўшы рукі і Уладзімір. *«У нас, дзе была перадавая, засталося многа зброі,* – працягвае пісьменнік. – *Я захаваў некалькі вінтовак, мін, скрыні патронаў. З гітлераўцамі прымірыцца не мог. Адзін рабіў засады, страляў з балота па нямецкіх калонах. Рабіў гэта, каб ніхто не ведаў, нават бацькі».*

Успамінаючы тыя грозныя гады, Уладзімір Федасеенка пісаў на старонках жлобінскай раёнкі: *«Хочацца шчыра падзякаваць землякам, якія дапамагалі мне выжыць у гады ваеннага ліхалецця. На маёй зямлі не сустрэлася ніводнага здрадніка, які б прадаў разведчыка-дыверсанта. Наадварот, многія людзі папярэджвалі мяне аб небяспецы, хавалі»* («Новы дзень», 20 красавіка 1996 г.).

У канцы 1943 года пачалося вызваленне Жлобінскага раёна. Перад самым злучэннем партызанскіх атрадаў з рэгулярнымі часцямі савецкіх войск Уладзімір Федасеенка быў паранены. Так закончылася для яго вайна. Ды і было яму ўсяго 17 гадоў.



**На фота Аляксандра ІВАНЬКОВА (злева направа): Уладзімір Федасеенка, Мікалай Шуканаў, Уладзімір Содаль, Павел Барадынцаў**

Падлячыўшыся ў эвакашпіталі, будучы пісьменнік паехаў у Гомель, дзе паступіў у рачны тэхнікум. Пасля вучобы працаваў у Гомельскім абкаме камсамола. У 1947 годзе паступіў у Мінскі юрыдычны інстытут, дзе правучыўся адзін год, і перайшоў у партыйную школу пры ЦК КПБ. Потым працаваў у ЦК камсамола рэспублікі, а з пачатку 50-х гадоў і да самай пенсіі – на розных пасадах у розных выданнях рэспубліканскага друку.

Тады ж, у 1951 годзе, Уладзімір Федасеенка заявіў аб сабе і як літаратар, пачаў друкавацца ў рэспубліканскім друку. У 1965 годзе ўбачыў свет яго першы раман «Дубовая града». Пазней – іншыя творы: яны сталі прыкметнай з'явай у беларускай літаратуры, занялі сваё пачэснае месца ў летапісе нацыянальнай гісторыі XX стагоддзя.

У 1972 годзе Уладзімір Федасеенка стаў членам Саюза пісьменнікаў.

...У апошнія гады Уладзімір Федасеенка даволі часта бывае ў Жлобіне – у дзень вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (26 чэрвеня) абавязкова.

– Асабліва мне глыбока запалі ў душу святочныя дні з нагоды 55-й і 60-й гадавін вызвалення Жлобіна, – расказаў Уладзімір Федасеенка. – На такія мерапрыемствы запрашэнні атрымалі тыя, хто ў свой час ваяваў на Жлобіншчыне, а сёння жыве далёка адсюль – у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Ніжнім Тагіле, Харкаве, іншых месцах былога Савецкага Саюза. Усіх нас акружалі вялікай увагай і цеплынёй. І калі наставалі апошнія дні знаходжання ў Жлобіне, многія з ветэранаў плакалі. Так не хацелася нікому пакідаць горад на Дняпры. І вялікая ў гэтым заслуга былога старшыні гарвыканкама Уладзіміра Канстанцінавіча Ерафеева і цяперашняга старшыні Міхаіла Васільевіча Касюкова. Запомнілася мне і святкаванне ў 2000 годзе 100-гадовага юбілею маёй роднай Мормальскай СШ, куды мяне таксама запрашалі. Адным словам, сувязь са Жлобіншчынай у мяне не парываецца.

*Мікалай ШУКАНАЎ,*
*супрацоўнік жлобінскай раігазеты «Новы дзень», краязнавец*

*Новая эканамічная палітыка.

---

***Ёсць у Беларусі горад, блукаючы па якім, адчуваеш своеасаблівую атмасферу. Пры знаёмстве з яго забудовай узнікае пытанне: «На што гэта больш за ўсё падобна? На малюнак старажытнай гравюры? На дэкарацыю для здымкаў якога-небудзь гісторыка-прыгодніцкага фільма? А можа, на чароўны экран, па якім прабягаюць кадры даўняга мінулага?» Горад гэты ахутвае нябачная дымка паданняў. Іх мноства – з любым са старых будынкаў звязана якая-небудзь неверагодная гісторыя. Але можна пачуць тут і праўдзівыя аповеды з яго «біяграфіі». Яны падаюцца яшчэ больш фантастычнымі, чым паданні.***

# Нясвіж
## старажытны і малады

Той, хто аднойчы пабываў у Нясвіжы, на ўсё жыццё запомніць прыгажосць тутэйшых мясцін, хараство, створанае ўмелымі рукамі майстроў беларускай зямлі. Мінулае тут бачыш на кожным кроку. Шмат турыстаў наведваюць Нясвіж і застаюцца ўражанымі прыгажосцю горада.

Нясвіжскі замак стаў пачынальнікам новага тыпу абарончых збудаванняў на Беларусі – умацаванняў бастыённага тыпу. Закладзены ён быў князем М.К. Радзівілам Сіроткам у 1583 годзе, а калі той вучыўся ва універсітэтах за мяжою, пазнаёміўся з дасягненнямі заходнееўрапейскай навукі. Нясвіжскі замак у свой час быў на Беларусі адным з самых магутных і дасканалых. Некаторы час у ім размяшчаўся санаторый «Нясвіж», які потым закрылі. А пасля пажару, які адбыўся ў замку, пачаліся рамонтныя аднаўленчыя работы.

За некалькі кіламетраў на паўднёвы захад ад Нясвіжа знаходзіцца «Альба» – самы вялікі (каля 200 гектараў) стары парк на Беларусі. У «Альбе» было шмат пабудоў. Тут знаходзілася аранжарэя, дзе вырошчваліся цытрусавыя, італьянскі арэх і размарын. Быў свой тэатр, шпіталь з аптэкай, паляўнічы дом, драўляны касцёл Святой Троіцы. З часам колькасць пабудоў павялічвалася. Але шматлікія войны 2-й паловы XVIII – пачатку XX стагоддзя нанеслі парку вялікі ўрон. Усе будынкі былі разбураны, значная іх частка спалена. Апошнім часам пачалася праца па адраджэнні і аднаўленні парку.

Нясвіжскі фарны касцёл езуітаў – адно з самых славутых збудаванняў у горадзе. У падвальным памяшканні храма знаходзіцца радавая крыпта князёў Радзівілаў. Кола асоб, якія наведалі саму крыпту, вельмі абмежавана. Прычына ў тым, што памяшканне яе зусім не прыстасавана для наведвання. Уваход у крыпту знаходзіцца пад алтаром Хрыста. Целы памерлых медыкі Радзівілаў бальзаміравалі, а потым хавалі метадам герметызацыі. Так было да XX стагоддзя, а пазней целы запайвалі ў цынкавыя труны.

«Домік на рынку» – яшчэ адно са старых збудаванняў у Нясвіжы. Гэта унікальны ўзор гарадскога жылля 1-й паловы XVIII стагоддзя з барочным фасадам. Цяпер гэта помнік рэспубліканскага значэння, у якім размясцілася дзіцячая бібліятэка.

На плошчы захаваліся гандлёвыя рады і ратуша. У ёй раней размяшчаўся магістрат (пачатак XX стагоддзя). Цяпер ратушу адрамантавалі, павесілі гадзіннік, які кожныя 15 хвілін адбівае звонам, што чуваць нават на ўскраінах горада.

Слуцкая брама – адзін з элементаў гарадской забудовы. Сёння яна ні перад кім не зачынена, не трэба пляцць і мыту.



*Скульптура святога Яна і Дом на рынку (фота Ул. Суцягіна, 1920-я гг.)*

Вось гэта толькі невялікая частка той далёкай гісторыі маленькага Нясвіжа. І калі вы прыедзеце ў Нясвіж, завітайце ў салон-галерэю «Скарбніца». Тут можна набыць не толькі падрабязную і маляўнічую карту горада, але і розныя карціны, вырабы народных майстроў.

*Юлія МАКСІМОВІЧ,*
*бібліятэкар Навасёлкаўскай сельскай бібліятэкі Нясвіжскага раёна*





*Музычнае краязнаўства*

***Пакуль Уладзімір Набокаў пісаў раман «Лаліта», у Амерыцы ўжо на ўсю моц гучала імя Мікалая Дзмітрыевіча Набокава. Што ў іх агульнага? Гісторыкі сведчаць, што Мікалай Набокаў тых жа каранёў, што і яго брат пісьменнік. Іх дзед – міністр юстыцыі пры цары Аляксандры III, бабуля – Марыя Фердынандаўна, ад нараджэння Корф. Бацькам будучага кампазітара быў Дзмітрый Дзмітрыевіч Набокаў, які ажаніўся з Лідзіяй Эдуардаўнай Фальц-Фейн, у чыёй сядзібе ў Любчы праходзілі дзіцячыя гады Мікалая. Бацькі хутка разышліся, і выхоўваць хлопчыка маці дапамагаў айчым Мікалай Фёдаравіч фон Пойкер (дзядзька Коля), суседскі памешчык. У яго маёнтак Пакроўскае Мікалай прыязджаў з трохгадовага ўзросту, як дадому. Менавіта ў Пакроўскім ён прыахвоціўся да музыціравання на старым вуглаватым раялі. Раяль быў няпросты. Яго, паводле падання, благаславіў сам П. Чайкоўскі. У 1911 годзе 8-гадовага Мікалая Набокава прывезлі ў Пецярбург, дзе ён час ад часу сустракаўся са сваім бацькам Дзмітрыем Дзмітрыевічам...***

# Набокаўскія мелодыі Любчы

У другой палове XIX ст. маёнткам Любча валодала Марыя Гогенлоэ, якой у 1888 годзе належала 11 751 дзесяціна зямлі. У 1899 годзе яна прадала маёнтак за 2 348 рублёў братам Фальц-Фейнам.

У 1904 годзе Любчу купіла ў сваіх братоў Лідзія фон Пойкер (прозвішча маці па другім мужы) разам з 4 200 га зямлі. Вядома, што цяпер старажылаў, якія ведалі Пойкер і яе першага мужа Дзмітрыя Набокава, у Любчы не адшукаеш. Верагодна, што пасля разводу Дзмітрый больш і не прыязджаў у Любчу. Лідзія Эдуардаўна, відаць, да гаспадарання ў любчанскай сядзібе адносілася як далёка не да галоўнай справы свайго жыцця. Малодшую дачку Пойкер выдала замуж за князя Мірскага, які меў маёнтак Мір, што за 50 км ад Любчы. Лідзія Эдуардаўна большую частку свайго часу праводзіла ў Вільні. Справы ў маёнтку не ладзіліся, і яго за даўгі заклалі ў Зямельны банк. Калі падышоў тэрмін выплаты доўгу, землі банк прадаў асобнымі надзеламі навакольным сялянскім гаспадаркам. А ў валоданні сям'і Пойкер засталася тэрыторыя былога Любчанскага замка на беразе Нёмана, вялікі сад, парк, лясныя ўгоддзі.

Магчыма, з цягам часу ўражанні ад сустрэч з замкам у Любчы і ляглі ў аснову некаторых музычных фантазій Мікалая Набокава. Тым больш верагодна, што кампазітар гасцяваў у Любчы і ў больш сталыя гады. Старажылы, безумоўна, не звязвалі асобу маладога гаспадара з прафесіяй кампазітара, тым не менш казалі, што быццам прыязджаў Мікалай Дзмітрыевіч у Любчу. І заўсёды прыбываў па Нёмане на параходзе. Адкуль? Ці надоўга? Але зусім магчыма, што так і было.

У 1937 годзе Лідзія Эдуардаўна памерла. Маёнтак перапісала на сына. Але ён гаспадарнічаў калі не праз пень-калоду, то праз акіян: жыў Мікалай Дзмітрыевіч з 1929 года ў Амерыцы. Туды ён паехаў пасля смерці Сяргея Дзягілева, якому пісаў музыку для мастацкіх выстаў пад назвай «Рускія сезоны». Дарэчы, набокаўскую музыку – балет-араторыю «Ода», напісаны для Дзягілева, заўважылі ў Савецкім Саюзе. Апафеозам грамадска-мастацкай дзейнасці Мікалая Набокава становіцца правядзенне ў Токіо, а затым і ў іншых краінах Азіі фестываля «Усход сустракаецца з Захадам». Такая музычна-геаграфічная шматграннасць – сведчанне адхіленасці кампазітара ад нацыянальнага зместу. Сваім лёсам Мікалай Набокаў нечым нагадвае Марка Шагала. Успомніце, якой доўгай была дарога мастака па вяртанні ў Віцебск, на радзіму. Ці «пратопча» сабе музыка Набокава сцяжынку хаця б у родную Любчу?

«У паветры пахне вясной. Не магу заснуць, толькі іншы раз нешта ўсхліпвае ды даносяцца словы дзіўнай журботнай песні, спявае жанчына... Нада мною – зоркі. Перада мною – мора, без берагоў, неабдымнае...» Такімі словамі заканчвае Мікалай Набокаў першую частку сваёй кнігі, дзе расказвае і пра любчанскае дзяцінства, і пра маленства, праведзенае ў запаведніку Асканія-Нова. Дарэчы, заснаваным яго дзядзькам Фрыдрыхам Фальц-Фейнам. Але гэта – ужо іншая гісторыя.

Асёння ў Любчы аднаўляюць уязную вежу ў замку. Краязнаўца Міхаіл Міхайлавіч Карповіч гэтаму нечувана рады. І спадзяецца, што будзе створана там музейная экспазіцыя, а побач з іншымі з'явяцца ў ёй матэрыялы пра апошніх гаспадароў Любчы – Набокавых і Фальц-Фейнаў.



*Старыя муры Любчанскага замка і ініцыятар іх рэстаўрацыі Іван Пячынскі*

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ, Мікалай ГАЙБА***

***Валянціна КОЎТУН***

# Пакліканыя

***(Урывак з рамана)***

**(Працяг. Пачатак у № 14)**

– Не мне аддаеш, князь... – годна, але з іскрынкамі здзіўлення ў вачах схіліла да Расціслава галаву.

– І пішча, як і пісаў, перадам у Полацк нядаўна закончаны абраз Найсвяцейшае Тройцы. Але...

– Але? – Журавінавы напой ачысціў дыханне. – Што сталася? – кіўнула на князёўну. – Чаму тут ляжыць?

– Да малітвы і святых абразоў бліжэй.

– Не варта рабіць так. Збудуй лепей для ўсіх нямоглых асобны харом лекавы, князь. – Зноў зірнула на хворую: – Ці даўно заснула?

– З вечара яшчэ. Выпіла макавы настой. Толькі апошні тыдзень прачынаецца з такімі пакутамі, сястра. Паміраe.

Лекар, пачуўшы апошнія словы князя, сумна зірнуў у іх бок, але працягваў стаяць каля князёўны. Расціслаў яшчэ больш спахмурнеў:

– Невылечную хворасць сэрца прызнаюць. І хуткую смерць.

– Усе мы ў руцэ Боскай, князь...

– Табе не казалі, што да продка нашага, Усяслава, ты надта ж падобная? І яна, – кіўнуў на дачку, – таксама! Вочы тыя ж.

– Толькі ў кожнае, бачыш, лёс інакшы, браце...

Расціслаў нічога не адказаў; тады схіліў галаву, моўчкі ўхвалілі гэтую годную стрыманасць. А князь, не адолеўшы засмучэння, абхапіў далонямі вялікі бліскучы лоб:

– Прашу, зайдзі да нас, міласэрная. Адпачні з дарогі.

Лекары і святары, якія стаялі каля ачмурэлай ад макавага зелля хворай, кідалі на полацкую госцю здзіўленыя позіркі, свечкі пад абразамі гарэлі патрэскваючы, быццам падавалі знак аб смяротнай пагрозе. Тады ўслед за князем выйшла. Але, пасля кароткага адпачынку ў маленькай бакоўцы, перамяніўшы вопратку, вярнулася ў капліцу. Расціслаў быў яшчэ тут:

– Колькі казаў ёй: не знайся з паганцамі. Ужо ў травені купілася ў Свіслачы! А потым... гэтыя зборні ў лесе з вогнішчамі.

– З Боскае волі, падыду да твае дачкі, брат, але не чакай цуду. Не да твару нам у такім гандлі з Госпадам рашаць яе жывот. Бо ўсё ў руках Ягоных. Вазьмі вось.

Дастаўшы з шырокага рукава пергамін, аддала яго Расціслаў:

– Гэта табе, князь. Пасланне ад палачан. Рагвалод, пляменнік наш, усё не суцішваецца.

Зноў зірнула на хворую, якая за ўвесь гэты час нават не варухнулася. Расціслаў сарваў пячатку і разгарнуў пасланне, прачытаць якое з-за слёз, што збягалі ў куточкі вачэй, не змог. Апусціў моцна аблыселую не па гадах галаву ў далоні:

– Ой, сястра...

Ноч грозна шумела за сценамі капліцы дажджом і ветрам. Свечкі пад абразамі трапяталі тонкімі языкамі. Тады, яшчэ такая ацяжэлая пасля доўгай дарогі, полацкая ігумення паволі скіравалася да хворай і ішла так ціха, што, здавалася, ледзь рухае знямелымі нагамі. Аднак з кожным крокам усё больш выпроствалася. Наблізіўшыся да юніцы, глянула на яе белы тварык. Міжволі перавяла позірк на лекара: той адно ўздыхнуў і развёў рукамі. Замерла: праз капліцу прашапацеў глухі шэпт: – «Ойча наш...» Ужо ўшчыльную наблізілася да лавы з юніцаю. Не згаворваючыся, абодва святары і госці з Кіева, сам князь адступіліся да дзвярэй, заціхлі. Амаль не дыхалі і грыдні з княжай дружыны, што неўпрыкмет працiснуліся ў капліцу. Стаялі купкай пад вузкім, залітым празрыстай слюдою акенцам.

А полацкая госця тым часам ужо нічога не заўважала, схіліўшы галу ў сваёй бясконцай малітве. І ніхто не мог сказаць, колькі часу мінула. Падняла позірк перад сабою на вялікі абраз Выратавальніка і яшчэ на абраз Маці Божай, зноў прыклалася да ранаў Хрыстовых. Вярнулася да маладзенькай Вольгі, перапоўненая святлом укрыжавання, падняла рукі над прыспанаю паміраючай. Праз тоненькія рыскі рэбраў адчула сэрца, што білася роўна і поўна. Аднак у самой яе так моцна закалацілася ў грудзях, што застагнала. Бачыла іншыя здаровыя органы маладога цела. Шукала хваробу. І вось уздрыгнула – торкнулася рубам далоні ў пругкую заслону над ныркамі, дзе ў пухіры чарнела страшная нячыстая сіла. Затрымцелі пальцы. Адчула, як на ілбе выступіў пот; цела пакрылася ліпкай слабасцю, ужо не магла адвесці рук ад гэтай чорнай смяротнай цвердзі ў нырках. Тады шчыльна склала далоні, адчуўшы, як працягам іх стае жывы вострый промень. З благаславення Апякункі, уся знерухомеўшы, пачала рассякаць плоць юніцы, пранікаючы ўсярэдзіну, але не так, як гэта робіць меч ці нож, а так, як тое здольна рабіць моца малітвы: праходзіла праз здаровыя тканкі да смяротнай д'ябальскай чарнаты. Нарэшце пацюху абвалакла, як цянётамі, абхапіла пухліну нябачнымі вóку пальцамі і, намогшыся, павольна і асцярожна пацягнула, стогнучы і абліваючыся жарам. Пакуль не зрушыла з месца чорную ігрушыну, што з кожным не намаганнем усё болей святлела. Але вось яна замерла і нарэшце зрабіла той, апошні, рывок, ад якога хворая ажно войкнула і тут жа паружавела.



*Хросны ход з мошчамі св. Ефрасінні з Мікалаеўскага сабора ў Спасаўскі манастыр (май 1910 год)*

Усе, хто быў у каплічцы, лекары і святары, молячыся, і сам князь у акружэнні грыдняў, не наважваліся падступіцца бліжэй. Увесь час са здзіўленай радасцю і затоеным жахам пазіралі на госцю. Толькі Сава кашлянуў. Белая, што снег, Еўфрасіння перавяла позірк на лекара Рамана з Кіева:

– Хворасць вялікая, бо ўсялілася ў юніцу сіла апраметная, у нырках была. – Глянула на князя. – Але няма ўжо яе па волі Боскай. Хутка, – кіўнула на Вольгу, – прачнецца, будзе служкай Хрыстоваю. Так наканавана. Толькі не прымушай і сілаю ад паганскіх ігрышчаў не адцягвай. Сама адвернецца.

Праз хвіліну ўсе разам: і абодва святары, і лекары з Кіева, і княжая чэлядзь, што выбегла з бакавых дзвярэй, і дружына ў бліскучых латах – шумна ўзрушаныя, уваходзілі ў прасторную залу да стала, застаўленага пітвом і ежаю: смажанінай і вэнджанымі вуграмі, фаршыраванымі гусінымі шыйкамі, белымі грыбамі. Яна сапраўды пасядзела крыху: з'ела мёду, што нацёк з сотаў у гліняную міску. Пакаштавала смажаныя грыбы, мочаныя яблыкі, журавінавы напой. Потым папрасіла адвесці яе ў тую ж маленькую бакоўку, дзе пажадала адпачыць. Склаўшы на грудзях рукі, прылегла. І адразу ж задрамала, уплываючы ў такі знаёмы трапяткі спеў.

**(Заканчэнне будзе)**

Тапаніміка: версіі

# Ігумен-Чэрвень – старэйшыя пасяленні Беларусі

## Паходжанне назвы Ігумен

***Паселішчы, як і людзі, – кожнае са сваім лёсам. Асабліва ён у горада Чэрвеня, які да 18 верасня 1923 года называўся Ігумен. Вельмі важна ведаць, адкуль пайшла назва таго ці іншага паселішча. Гэта дае магчымасць раскрыць яго пачатковую гісторыю, лёс. Убачыць, ці захавалася першаснова да сённяшняга часу, якія традыцыі жывуць.***

Узнікненне Ігумена звязваецца з легендай аб каханні дзяўчыны вядомага і багатага роду і беднага простага хлопца. Але ім не дазволілі пабрацца шлюбам. Тады дзяўчына паклялася больш ніколі не выходзіць замуж. Пастрыглася ў манахіні, заснавала манастыр і стала яго ігуменняй. З цягам часу набыла вялікую павагу. Дазваляла людзям сяліцца каля манастыра. Так узнікла паселішча і празвалі яго Ігумен.

Існуюць і іншыя версіі паходжання назвы Ігумен. Усе яны звязаны з манастыром. Я прывёў найбольш распаўсюджаную. Прыгожыя легенды, на маю думку, не адпавядаюць рэчаіснасці. Нашы продкі давалі назвы не выпадковыя, а характэрныя, дакладныя і трапныя. Яны адпавядалі зместу. Упершыню ў праўдзівасці легенды я засумняваўся ў сярэдзіне 1970-х гадоў. Па-першае, чаму назва мужчынскага роду? Па змесце легенды назва паселішча павінна быць жаночага. Па-другое, няма доказаў існавання манастыра. Каб ён быў, то хоць якія-небудзь засталіся б сляды. Правяраў і па маскоўскіх крыніцах, але і там нічога не знайшоў. У пошуках, аналізах розных варыянтаў я звярнуўся да старажытнагрэчаскай мовы. І вось што выявілася. Слова «ігумен» паходзіць ад грэчаскага «hegumenos». У шэрагу энцыклапедычных выданняў яно перакладаецца як «той, хто ідзе наперадзе, вядучы». Далей указваецца, што гэта настаяцель праваслаўнага манастыра – ігумен. Так, напрыклад, яно трактуецца ў «Большой Советской Энциклопедии» (М., 1972, Т. 10. С. 34). Назва горада з цягам часу звязалася з вышэй выкладзенай легендай. Я ўзяў слоўнікі старажытнагрэчаскай і новагрэчаскай моваў. У гэтым шматзначным слове мне бачыцца глыбокі сэнс. Гэтае слова мае шмат значэнняў, а іменна: 1) той, хто ідзе наперадзе, вядучы; 2) папярэднічаць чаму–небудзь; 3) ісці наперадзе кагосьці; 4) начальнічаць; 5) паказваць шлях.

Калісьці праз нашыя мясціны старажытнагрэчаскія купцы шукалі шляхі гандлю з Поўначчу. Справа была цяжкая, небяспечная. Вось адзін з гандляроў заснаваў апорны пункт. Ён павінен быў садзейнічаць руху купцоў уперад. Тут суайчыннікі, што пазней ішлі па слядах першапраходцаў, атрымлівалі дапамогу. Патрэбна было пераадолець нямала перашкод, у тым ліку вялікія рэкі. У гэтым пункце купцы маглі прадаць тавар, адпачыць, паправіць здароўе, адрамантаваць амуніцыю. Пры неабходнасці пакідалі частку тавараў на захоўванне пад вартай. Паказаць далейшы шлях грэчаскім купцам, рыхтаваць іх да яго – была галоўная функцыя гэтага пункта. Адсюль пашла назва «Ігумен» – той, хто паказвае шлях. З цягам часу пункт перарос у паселішча.

Ці было з кім гандляваць у той час на Ігуменшчыне? Стаў шукаць адказ. Прааналізаваў розныя гістарычныя крыніцы, сістэматызаваў інфармацыю. Выснова ўзрушыла мяне. Высветлілася, што Ігуменская зямля была вельмі спрыяльнай для жыцця, і з сівой даўніны яе асвоілі людзі. Калі сюды трапілі грэчаскія купцы, тут існавала 18 вялікіх родаплемянных супольнасцей – гандляваць было з кім. Тэрыторыя супольнасці нагадвала трохкутнік з вяршыняй, накіраванай на захад у напрамку да сучаснага Мінска. Яго аснова – правы бераг ракі Бярэзіны ад упадзення ў яе на поўначы ракі Ушы і да ўпадзення ракі Свіслач на поўдні. Паўночны бок – рэкі Уша, Вожа. Заходне-паўднёвая мяжа – рэкі Слоўсць, Волма, Свіслач ад упадзення ў яе Волмы і адсюль да ўпадзення самой Свіслачы ў Бярэзіну. Адлегласць ад асновы трохкутніка да вяршыні прыкладна складае каля 70 км. Большую частку тэрыторыі супольнасці складаюць землі сучаснай Чэрвеньшчыны. Ігуменскі павет якраз знаходзіўся цалкам у межах гэтага трохкутніка. Таму супольнасць можна ўмоўна назваць Ігуменскай. Але больш дакладна – Бярэзінска-Ушацка-Валмянска-Свіслацкая.

Магчыма, заснаваная грэкамі база (Ігумен) знаходзілася амаль у самай сярэдзіне гэтай тэрыторыі. Адсюль было зручна ва ўсіх напрамках яе асвойваць. З цэнтра па невялікіх рэчках можна было трапіць у рэкі Ушу, Свіслач, а па іх у Бярэзіну, з яе – у Дняпро.

Пералічу асноўныя родаплемянныя супольнасці з выкарыстаннем сучасных назваў на тэрыторыі Чэрвеньскага раёна: Смілавіцкая, Турэцкая (Смілавіцкі сельскі Савет), Кліноцкая (Кліноцкі сельскі Савет), Іваніцкая (Кліноцкі сельскі Савет), Ваўкавыская (Валевацкі сельскі Савет), Замастоцкая (Руднянскі сельскі Савет), Раваніцкая (Раваніцкая слабада), Хутарская (Гарадзішча), Гарадоцкая (Лядскі сельскі Савет), Старапрудская (Хутарскі сельскі Савет), Вайнілаўская (Гарадзішча), Градноўская (Раваніцкі сельскі Савет), Грабёнская (Валявацкі сельскі Савет), Юравіцкая (Хутарскі сельскі Савет), Міхайлаўская, Кладская (Лядскі сельскі Савет), Руднянская (Руднянскі сельскі Савет), Уборская (Руднянскі сельскі Савет). Кожная мела сваю тэрыторыю, якая межавалася з суседняю, могільнікі, месцы пакланення багам, гарадзішчы. Да нашага часу захавалася шмат могільнікаў, гарадзішчаў.

Гісторыя Ігумена пачалася значна раней за XV стагоддзе, як цяпер лічыцца. На маю думку, гэты грэчаскі пункт быў заснаваны яшчэ да распаўсюджвання сярод славян хрысціянства. Назва павінна быць простай, запамінальнай, зразумелай для ўсіх. «Ігумен» адпавядала такім патрабаванням. Ігумен-Чэрвень з'ўляецца адным са старэйшых паселішчаў на Беларусі. І сваім узнікненнем ён абавязаны старажытнаму грэчаскаму гандлю.

Прафесар з Гомеля А. Рагалёў выказаў версію аб фіна-угорскіх вытоках назвы Ігумен, але яна не вытрымлівае крытыкі. Для гэтай мэты ён штучна выкарыстаў сучасную мансійскую мову. На пачатку хрысціянізацыі не было ніякай «падгонкі слова» ікуймен (айкумена. – **Рэд.**) у Ігумен на індаеўрапейскі манер, бо яно не выйшла з нетраў фіна-угорскіх моваў, тым больш мансійскай.

У адносінах да слова «шлях» я скарыстоўваю множны лік і на гэта маю рацыю. Добра вядома, што быў водны шлях «З варагаў у грэкі» па Дняпры, яго прытоках, Заходняй Дзвіне. Гістарычным фактам з'яўляецца і тое, што існаваў шэраг сухапутных шляхоў гандлю ў розных напрамках. Яны перасякалі водныя. Напрыклад, дарога, на аснове якой узнікла сучасная шаша Санкт-Пецярбург – Адэса. Не заўжды водны шлях быў самым спрыяльным. Інтарэсы гандлю патрабавалі засвойваць тэрыторыю ва ўсіх напрамках, шукаць найбольш выгаднейшыя для рэалізацыі тавараў і набыцця іх у абарыгенаў мясціны.

Галоўнае для развіцця гандлю – не столькі спрыяльныя прыродныя ўмовы, колькі магчымасць атрымаць прыбытак, купіць новыя тавары і зноў прадаць з выгадай у іншым месцы. З далёкіх часоў вядома, што ў глушы тавар ідзе лепш і даражэй. Менавіта інтарэсы гандлю штурхалі грэкаў на пошук новых тэрыторый, шляхоў.

Калісьці рэкі былі куды больш магутнымі. На тэрыторыі сённяшняй Чэрвеньшчыны ёсць рэчкі «вераб'ю па калена», а ў першай чвэрці XX стагоддзя па іх сплаўлялі лес. Аб гэтым добра могуць расказаць старэйшыя жыхары раёна. Тычыцца гэта і сучаснай Ігуменкі. Грэкам не заўжды былі патрэбныя вялікія рэкі. Галоўнае – пранікнуць у глыб тэрыторыі, дзе мог актыўна ісці гандаль.

На маю думку, манастырская версія аб заснаванні Ігумена ўзнікла толькі ў канцы XIX стагоддзя. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі яе гучанне ўзмацнілася ў плыні антырэлігійнай барацьбы. Сапраўднай гісторыі горада не ведалі, і ўсё, што нейкім чынам было сугучна веры, падлягала забароне. Па гэтай прычыне і змянілі назву горада Ігумень на Чэрвень.

Навукоўцы даўно прызнаюць факт знаходжання грэкаў на тэрыторыі старажытных беларускіх земляў. Гэтае сцвярджэнне ідзе на карысць маёй версіі. Засяроджу ўвагу на наступнай акалічнасці. Продкі добра разумелі назву. Каб гэта было не так, то яны б яе змянілі, ці дадалі б тлумачальнае слова, а яго няма. Продкі разумелі сутнасць. Вось прыклад: «Брод». Але ж броды існуюць розныя: гнілыя, топкія, тупкія. Продкі даюць назву «Каменны брод». Гавораць, што гэты брод можна перайсці і пераехаць. Тут камяністае дно. Зразумела кожнаму. Слова «ігумен» выкарыстоўвалася тут да прыняцця хрысціянства і яго сутнасць добра разумелі мясцовыя жыхары.



*На калажы: Святая горка, стод і рэшткі каменя-ахвярніка*

Некалькі слоў аб вёсцы Гарадзішча, што каля Чэрвеня. Даўным-даўно жыхары Гарадзішча былі першымі партнёрамі старажытных грэчаскіх купцоў. Пры іх дапамозе апошнія асвойвалі навакольныя прасторы. Дзякуючы існаванню гэтага Гарадзішча і спрыяльных прыродных умоў, грэкі заснавалі паблізу яго свой апорны пункт і такім чынам паклалі пачатак будучаму гораду. Назва пункта перайшла на новае паселішча. Яна падабалася тагачаснаму насельніцтву і па змесце, і па гучанні.

Людзі пытаюцца: «Дзе ўзнік горад?» Месца ўзнікнення горада – сучасны цэнтр Чэрвеня.

Чаму лічу, што пачатак гораду быў пакладзены на месцы сучаснага цэнтра? У старажытныя часы гэта тэрыторыя была высакаватым пясчаным вострававам сярод балотаў, забалочаных лясоў. Яго межы і зараз не цяжка вызначыць. Ён знаходзіўся бліжэй да вярхоўя рэчкі Ігуменкі, да тагачаснага паселішча славян. Рэчка цякла каля самога вострава і агінала яго. Тут было самае зручнае месца для прыпынку лодак ці суднаў. Шлях ад прыстані да паселішча ішоў угару па сучасных вуліцах Луначарскага і Урыцкага. Абраны быў востраў яшчэ і таму, што рака магла тут выконваць абараняльныя функцыі. Гэтая ўмова ў тыя далёкія часы была амаль першаснай.

У назве ракі Ігуменкі няма нічога незразумелага: рака, якая вядзе да Ігумена. Лічу, што маюць рацыю тыя людзі, якія абураюцца выказваннем асобных аўтараў аб прывіднасці пачатковай гісторыі Ігумена. Не ўсе населеныя пункты свету маюць дакладную дату заснавання, старажытны летапіс. Але іх гісторыю «прывідной» не характарызуюць. Яна зразумелая, ясная і ў Ігумена-Чэрвеня, калі не трымацца «манастырскіх» версій яго ўзнікнення. Вельмі добра, калі ёсць звесткі пра першыя крокі. Ды не менш значна, калі можна назваць этап у развіцці гісторыі. Такая выснова цалкам датычыць Чэрвеня. Час яго нараджэння – перыяд функцыянавання сусветнавядомага гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі». Гэта значыць, самы пачатак IX стагоддзя. Гістарычная навука лічыць, што шлях «з варагаў у грэкі» існаваў у IX–XI стагоддзях. У больш позція часы гэта б не мела сэнсу. Была плынь не толькі «варагаў», але і сустрэчная – «грэкаў». Ад той сівой даўніны ідзе адлік гісторыі Ігумена-Чэрвеня. Ёсць адказ і на пытанне, чаму ён не знік і чаму не стаў вялізным горадам? Гэта не здарылася таму, што ўсе стагоддзі ён выконваў сваю галоўную функцыю (вызначаную яшчэ грэкамі) – абслугоўваць гандлем навакольную тэрыторыю. І зараз у гэтым яго галоўнае прызначэнне. Як бы блізка ні быў Мінск, а Чэрвень – вось тут, пад бокам. Толькі эканамічныя і культурныя патрэбы вызначаюць лёс і памеры паселішчаў. Калі гэта ўмова знікае – прыходзяць у заняпад паселішчы. Ігумен-Чэрвень не знік, а значна вырас. Гэта значыць, і вырасла яго эканамічная і культурная роля ў развіцці тэрыторыі. Яго памеры адпавядаюць ягоным функцыям.

Ігумен-Чэрвень мае тысячагадовую гісторыю. Ён з ліку старэйшых пасяленняў Беларусі. Падкрэслю яшчэ раз: сваім узнікненнем ён абавязаны старажытным грэчаскім купцам, а не манастыру.

*Іван ЯРАШЭВІЧ,*
*г.п. Смілавічы,*
*фота аўтара*

**Рэдакцыя «КГ»** *просіць у аўтара прабачэння за невялікія скарачэнні, якія, спадзяемся, не паўплываюць на змест артыкула.*





## Сем цудаў Беларусі

***Уладзімір А.:***

1) унікальнасць беларускай мовы;
2) Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку;
3) Беларускае Палессе;
4) Нясвіж (гісторыка-культурны радзівілаўскі запаведнік);
5) Каралеўская рэзідэнцыя ў Гродне;
6) Белавежская пушча;
7) нарачанска-мядзельскі прыродны ландшафт.

***Аляксей ПЯТКЕВІЧ:***

1) Краснасельскі археалагічны комплекс: 80 крэмнездабыўных шахт каменнага і бронзавага вякоў і інш. (Ваўкавыскі раён);
2) Барыса-Глебская (Каложская) царква ў Гродне;
3) Крыж Ефрасінні Полацкай;
4) беларускія летапісы;
5) храмы-крэпасці XV–XVI стст. – помнікі беларускай готыкі (в. Сынкавічы Зэльвенскага раёна і в. Мураванка Шчучынскага раёна);
6) Нясвіж;
7) творчая спадчына Васіля Быкава.



*Выстава вучнёўскіх працаў у Лявонпальскай агульнай школе імя Ю. Пілсудскага, 1930-я гады (цяпер – вёска ў Мёрскім раёне)*

*Фота з архіва Сяргея* ПАНІЗЬНІКА

## Крыжаванка

***Уздоўж***

**5.** Спартыўныя спаборніцтвы, у якіх лыжная гонка спалучаецца са стральбой з вінтоўкі. **6.** У старажытных славянскіх і некаторых заходнееўрапейскіх арміях вайсковец цяжкай кавалерыі. **9.** Прызнанае практыкаванне йогі. **10.** Адсутнасць стрэлу з-за няспраўнасці зброі ці патрона. **11.** Эластычны пояс для абароны ніжняй часткі тулава спартсмена. **14.** Сталіца адной з азіяцкіх краін, месца правядзення XXIV Алімпійскіх гульняў (1988). **16.** Спартыўны снарад. **17.** Від спорту. **18.** Беларуская спартсменка, бягуння, неаднаразовая чэмпіёнка Еўропы і свету, 32-разовая чэмпіёнка СССР. **19.** Цяжкаатлетычны спартыўны снарад. **23.** «Снежны...» Ганаровае званне, што прысвойвалася альпіністам, якія ўзыходзілі на вяршыні-сямітысячнікі тэрыторыі СССР. **24.** Жыхарка адной з буйных азіяцкіх краін. **25.** Горналыжны цэнтр г. Віцебска. **28.** Тэматычная аб'ядная частка кнігі, газеты. **29.** Спартыўная камандная гульня вярхом на конях. **30.** Марка фотаапарата. **32.** Здольнасць плаўца перамяшчацца ў глыбіню вады пры аднаразовай затрымцы дыхання. **33.** Горад у ЗША, месца правядзення XXVI Алімпійскіх гульняў (1996).

***Упоперак***

**1.** Алімпійскі спартыўны комплекс у 12 км ад Мінска. **2.** Прастора паміж якімі-небудзь межамі на спартыўных пляцоўках і палях. **3.** Міжнародная федэрацыя футбольных асацыяцый (абр.). **4.** Тэхнічны прыём абароны ў футболе. **5.** Хуткасны спуск з гор на кіруемых санках. **7.** Коннаспартыўны комплекс каля Мінска. **8.** Горад у Францыі, месца правядзення І зімовых Алімпійскіх гульняў. **12.** Сістэма, рэжым спартыўных трэніровак. **13.** Стан пакою ў які-небудзь момант (кніжн.). **15.** Паўднёвая вадзяная расліна з буйнымі прыгожымі кветкамі. **17.** Невялікае ўзвышша. **20.** Незайздроснае становішча баксёра ў час бою. **21.** Сярэднявечны непісаны ганаровы кодэкс воінскіх паводзін самураяў. **22.** Элемент парнага фігурнага катання на каньках. **26.** Частка якой-небудзь плошчы, абмежаваная радыяльнымі лініямі. **27.** Разнавіднасць футбола. **30.** ...– фу. Адна з сістэм усходніх адзінаборстваў. **31.** Сталіца адной з паўднёваамерыканскіх краін.

*Склаў Лявон ЦЕЛЕШ, г. Дзяржынск*




**Ад рэдакцыі.** ***Днямі наш пастаянны аўтар і чытач Лявонцій Сцяпанавіч Целеш адзначыў свой юбілей. «КГ» шчыра зычыць заўзятаму складальніку крыжаванак здароўя, шчасця, дабрабыту і новых творчых здзяйсненняў.***

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВАСІЛЬКОЎКА** – гарадзішча (IV–V стст.) культуры штрыхаванай керамікі за 1,5 км на паўднёвы захад ад лагойскай в. Васількоўка, ва ўрочышчы Замак. На доўгім узгорку на правым беразе р. Цна. Пляц круглаваты, дыяметрам 57–59 м, умацаваны 2 валамі вышынёй да 1,5 м, шырынёй 7–10 м і ровам паміж імі глыбінёй да 1,5 м, шырынёй 9–10 м. На гарадзішчы выяўлены рэшткі жылля і гаспадарчых пабудоў слупавой канструкцыі. Адно жытло, межы якога ўдалося выявіць, было 2-камернае, памеры 4,3–4,6 на 2,8 м. Усярэдзіне адной камеры размяшчалася агнішча падковападобнай формы, абкладзенае камянямі, напалову ўкапанымі ў мацярык. На гарадзішчы таксама выяўлены 2 ямы-паграбы. Гаспадарчая пабудова слупавой канструкцыі была падзелена на 4 памяшканні, тры з іх памерам 3,8 на 2,8 м, чацвёртае, меншае, было трапецападобнай формы і, мабыць, было стойлам для жывёлы.

**ВАСЬМЯРЫК** у архітэктуры – васьмікутная ў плане па будова ці яе частка. Форма вядомая з часоў Візантыі, у паўднёвых славян, Арменіі, Грузіі і інш. На Беларусі ў гэтай форме будавалі ў XVI–XVIII стст. асобныя вежы гарадскіх умацаванняў (у Віцебску вядомы пад назвай «круглікаў»), замкаў і палацаў (Гальшаны Ашмянскага павета), ратуш (Магілёў), а таксама культавыя будынкі (кальвінскі збор у Смаргоні), вежы манастыроў і кляштараў (кляштар картэзіянцаў у Бярозе). У XVI–XIX стст. ужываліся камбінаваныя формы васьмерыка і чацверыка – вежы-брамы замкаў у г.п. Мір Карэліцкага раёна, г.п. Любча Навагрудскага, вежа Троіцкага касцёла ў г.п. Ружаны Пружанскага раёна і інш. У драўляным, пераважна культавым, дойлідстве XVII–XIX стст. форма васьмерыка ўзнікла пад уплывам барока (Аршанскі куцеінскі Богаяўленскі манастыр і інш.). Для Палескай школы дойлідства 2-й пал. XVIII–XIX стст. характэрна чаргаванне васьмерыка і чацверыка (Міхайлаўская царква ў в. Рубель Столінскага раёна, званіца ў Давыд-Гарадку і інш.). У сучаснай архітэктуры форма васьмерыка выкарыстоўвалася ў 1950-я гады.

**ВАЎКАВЫСК** – горад, цэнтр аднайменнага раёна за 98 км ад абласнога Гродна. Вузел чыгунак на Баранавічы, Масты, Бераставіцу, Свіслач і аўтадарог на Масты, Слонім, Ружаны, Бераставіцу. На канец XX ст. было каля 50 тысяч жыхароў.

Першыя паселішчы ў Ваўкавыску пазначаюцца XI ст. (гарадзішча Муравельнік, дзядзінцы Шведская гара і Замчышча (вакольны горад). Летапісны Волкавыеськ пазначаны ў дакументах за 1252 г., калі быў ужо цэнтрам Ваўкавыскага княства, спрыяў Навагародку ва ўтварэнні ВКЛ, за што зведаў нямала спусташальных нападаў князёў Галічыны і Валыні.



*Ваўкавыск, Вацлаваўскі касцёл*

У 1386 г. вялікі князь ВКЛ Ягайла прыняў тут карону караля Польшчы. З XV ст. цэнтр староства, з XVI – павета. У 1921–1939 гг. у складзе Польшчы, цэнтр павета Беластоцкага ваяводства. З 1940-га цэнтр раёна. У акупацыю 1941–1944 гг. знішчана больш чым 29 тысяч чалавек.

Развіта машынабудаванне і харчовая прамысловасць. З архітэктуры ёсць помнікі XIX ст.: Вацлаваўскі касцёл, Мікалаеўская царква, сядзібны дом і інш. Сумесна з землямі Бераставіцкага, Свіслацкага, Зэльвенскага раёнаў на мяжы з Нёманскім, Слонімскім і Гродзенскім узвышшамі знаходзіцца Ваўкавыскае плошчай 3,2 тыс.км² (найвышэйшы пункт 242 м над узроўнем мора). Рэльеф узгорыстаувалісты з рачнымі далінамі. Карысныя выкапні: цэментныя і лёгкаплаўкія гліны, пясчана-жвіровы матэрыял, мел.

Працуе ваенна-гістарычны музей імя П. Баграціёна.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 13.04.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.)
Заказ 590.
Тыраж 1540 асобнікаў.